Год I. Серада 28 сьнежня 1921 г. № 5.

# РАНІЦА

штодзенная, грамадзкая, палітычная і літэратурная газэта.

АДРЕС РЕДАКЦЫІ і КАНТОРЫ
Вільня, Вострабрамская № 4, „Hotel Szlachecki“ пак. № 2.
Рэдакцыя адчынена што дня, апрача сьвят, ад 11 да 1 і ад 5 да 7 гадз.

**Цана нумару 20 марак.**
Падпіска на 1 мес. . . 400 марак.
З перасылкай 1 „ . . 500 „
За граніцай ў два разы даражэй.

ЦАНА АБВЕСТАК:
За адзін радок звычайнага друку на 1 стр.—60 м.
ў тэксьце . . . . . . . 75 м.
за тэкстам . . . . . . . 40 м.
Для шукаючых працы на 10 прац. таней.

## Беларусы! Усе на выбары, як адзін! Усе на абарону Бацькаўшчыны!

## АБВЕСТКА.

Аддзел Асьветы пры Ц. К. К. С. паведамляе усіх беларускіх вучыцялеу, што яны у сваім інтэрэсе, як найхучэй павінны зарэгістравацца у Аддзеле Асьветы. Тыя вучыцялі, якія ня могуць самі прыехаць у Вільню, павіны **зглясіцца** па поште па анкетныя лісты, і запоуніушы іх прыслаць у Асьветны Аддзел пры Цэнтральным Камітэце Краевай Сувязі: Вільня Ахвярная 4 пак. 2. Рэгістрацыя вядзецца у Аддзеле Асьветы, што дня ад 10 г. раніцаю да г.3-цей па палудні.

*Рэдакцыя газэты просіць п. падпісчыкау высылаць у пару грошы за газэту. Калі грошы ня будуць адтрымываццa, то высылка газэты будзе затрымана.*

Кантора газэты „Раніца“ паведамляе, што магазынам выпісываючым газэту дзеля прадажы, кантора будзе рабіць 30 проц. уступкі.

## Беларуская Прадвыбарная Акцыя.

Беларускі Выбарчы апарат ўжо зусім з'арганізаваны.

Цэнтральны Беларускі Выбарчы Камітэт месьціцца па **вул. Ахвярнай** д. 4; адчынены увесь дзень.

Усялякія інфармацыі выдаюцца дзяжурным.

Акружныя Беларускія Выбарчыя Камісіі ўжо ад тыдня працуюць у **Ашмянах і Камаях**.

Першая выбарчая літэратура разаслана ў вялікім ліку экзэмпляраў.

Выбарчы Камісар п. Адам Курыловіч, аб'ехаў асабіста вокругі Ашмянскі і Камайскі.

Агульны настрой людласьці прыхільны да выбараў.

Сьцьверджана, што шмат адозваў раскінуты ўрадам Ластоўскага і партыяй эс-эраў.

Гэтыя дэмагагічныя звароты да народу ня маюць жадных водгукаў.

Выбарчыя сьпіскі на вокругі Ашмянскі і Камайскі аканчацельна зацьверджаны.

БЕЛАРУСЫ!

**Вашыя выбарчыя сьпіскі, за якія усе мусіце галасаваць як адзін.**

**Па Ашмянскаму вокругу сьпісак № 6.**

1. Аляксюк Павал.
2. Карэнда Міхал.
3. Швабовіч Язэп.
4. Стальмах Антось.
5. Цімаховіч Франук.
6. Субач Франук.
7. Буткевіч Пётра.
8. Макарэвіч Янка.
9. Чыжэўская Мар'я.
10. Стрыга Аляксандар.

**Па Камайскаму вокругу.**

1. Шышкоў Васіль.
2. Бэкіш Янка.
3. Міхайлаў фядот.
4. Цьвілэнь Марцін.
5. Барсукоў Васіль.

Выбарчы Камісар
Адам Курыловіч.

*Вільня 28 сьнежня.*

Выбарнае змаганьне паміж рознымі групамі насяленьня, партыямі і арганізацыямі што дзень пашыраецца.

Цяпер ужо яона акрэсьлілася тры цячэньні адносін да выбараў.

Першае цячэньне хоча, каб Сойм сабраўся толькі дзеля заявы аб прылучэньні Сярэдняй Літвы да Польшчы. Гэта жаданьне усей эндэцыі і земяяўласьнікаў — Сувязі Людова-Нарадовай, Польскіх партый Людовай і Стражы Крэсовай.

Другая група, да якой апроч польскіх арганізацый „Адродзэньня“. Дэмакратычнай партыі і „Польскай Соцыялістычнай партыі“ належаць Беларускія арганізацыі: Краёвай Сувязі, партыя „сялібнікаў“, сялянская партыя „Зялёнага Дуба“ арганізацыя безпартыйных беларусаў; жыдоўскі „Бунд“, гэтая група кажа, што ў Віленскім Сойме ня толькі трэба сказаць, што Сярэдняя Літва павінна аб'яднацца з Польшчай, але яшчэ трэба заявіць аб зямельным пытаньні, аб нацыянальных школах, аб парадках і усялякіх правох сялянскага люду.

Трэйцяя група—гэта тыя элемэнты, якія ідуць проці выбараў у Сойм. Да ей належаць жыдоўскія сыяністы, жыдоўская партыя пэйрэ-цыон, грамада купцоў, частка грамадзянства і некалькі Беларускіх арганізацый на чале з „Віленскім Беларускім Нацыянальным Камітэтам“, Беларускія соцыялісты-рэвалюцыяністы, працуючыя па дырэктывам пана Ластоўскага з Коўны.

Усе тры групы змагаюцца адна з адной. Але нідзе гэтае змаганьне ня выявілася ў грубых і вострых формах, як у адносінах „Беларускага Нацыянальнага Камітэту“ да сваіх палітычных ворагаў — „Краёвай Сувязі“ і тых беларускіх арганізацый і партый, якія прытрымываюцца адной з „Краёвай Сувязьзю арыентацыі.

Які ж кірунак палітычнай мысьлі мае „Беларускі“ Нацыянальны Камітэт, і якой арыентацыі трымаюцца яго актыўныя працаўнікі, угледзець вельмі легка — трэба толькі разьвярнуць хоць адзін нумар тых газэт і аднаднёвак, якія ў апошні час выдаюцца Камітэтам, і там вы убачыце глухую злобу і ненавісьць проці беларускіх партый і арганізацый трымаючыхся польскай арыентацыі, жадаючых злучэньня Сярэдняй Літвы з Польшчай.

Выліваецца усялякі бруд плёткі і інсынуацыі па адрэсу на самага актыўнага і спасобнага працаўніка „Краёвай Сувязі“, вядомага на ўсім абшары Беларусі дзеяча п. Аляксюка, працуючага на карысьць Бацькаўшчыны амалька з дзяцінства.

Вядзецца самая шорсткая агітацыя проці выбараў у Сойм проці усіх, хто спагадае гэтым выбарам,

Чым жа ш тлумачацца такія адносіны да выбараў і да тых беларусаў якія ідуць са шчырым сэрцам да аб'ядананьня з Польшчай, бачучы ў гэтым аб'яднаньні ратаваньне беларускай нацыянальнай ідэі і мажэбнасьць у будучыне аўтанамічнага істнаваньня дзяржаўнай Беларусі?

Адказ на гэтае пытаньне — даюць рэзалюцыі Пражскай Нарады. Там у чэшскай Празе былі прыняты рэзолюцыі варожыя да Польшчы а тыя што вялі крывавую барацьбу з бальшавікамі за незалежную свабодную Беларусь абвешчаны ворагамі Беларускага Народу.

Далей гэтага—ісьці няма мейсца!

Адно добра, што таемная барацьба перайшла ў адкрытую.

І вось цяпер, віленская група беларусаў, стаячых на грунце нямецкай ідэі, працуючая па дырэктывам Пражскай Нарады і пана Ластоўскага, хоча скарыстаць выбары ў Сойм і ашукаць беларускі сялянскі народ, так, як ужо не адзін раз ашуківалі яго розныя самазваныя ні бы то беларускія, а на дзеле, нямецкія ці бальшавіцкія „урады“ і арганізацыі.

Добра толькі адно: „Беларускі Нацыянальны Камітэт — арганізацыя ня маючая жаднага уплыву на нашую вёску, саўсім ня ведамая сялявіну і ўсе яе выкрыкі і лямант разьлятаюцца ў паветры. Аб гэтым сьведчаць тыя лісты, якія што дзень атрымлівае рэдакцыя „Раніцы“ з вёскі.

Аб гэтым сьведчаць і тыя весткі, якія прыходзяць з розных вуглоў нашай Бацькаўшчыны.

Усюды беларусы гатовяцца да выбараў, усюды хочуць правясьці ў Сойм пэўных людзей, сваіх беларусаў каб яны выявілі волю беларускага народу, ратавалі яго ад няволі.

Дай Бажа каб гэтыя весткі выклікнулі краску сораму на тварох той маленькай групы, беларусаў, прыхільнікаў „Беларускага Нацыянальнага Камітэту, якая з усей моцы стараецца псуць беларускую справу, лішыць голасу ў Сойме Беларускі сялянскі народ!

✦✦✦✦



